# Вера Русіновіч знайшла словы

*На дэрві лісток жывэ, вуон говорыт, слеза плывэ по жылах. Дыхае, кажэ родной мовой. Чую, возносіцца ўгору. Шум коло ёго проходзіт. Вуон ешчэ жывэ, хочэ пойці далей, нэможна. До дэрва прырос вуон...*





*Чытала я кніжку ўложану са слоў. Рукой узяла за початок і стала ісці далей,* — напісала ў адным з апошніх вершаў на роднай мове Вера Русіновіч з Нарвы, родам з Катлоўкі, прачытаўшы кнігу „Шлях да Бога", атрыманую з „Нівы". А трапіла яна на ніўскія старонкі дзякуючы айцу Рыгору Сасне, які даведаўся, што гэтая веруючая скромная жанчына піша вершы. У той час іх пісала на рускай, царкоўнай мове. І стала пісаць па-свойму, на старадаўняй гаворцы вёскі Катлоўка, так як гаварыла з маленства. — *Як па дарозе пшэцінок знайшла, зачэпілася я і помалу з кіём до кропкі дойшла. Стала розглядацісь — кругом бачу крыніца Воды святой. Квартой зачэрпнула воды, дэ плывэ источнік родны. Тутай молітва была нэ так даўно — учора. Просілі людэ о здороўї Царыцу Небесного Двора. Быў так прызваны Святы Іоанн Багаслоў і ўсе Святые мінулых гадоў. Далей по дорозі ступала і дужо ўсего запомэтала. Як православныя народ прожывае, з верой по дорозі до Бога ступае, тры пальцы складае, а два прыгінае Правай рукі, Крэст накладае на члены цела і душы. То ўсё, з чым нам ісці по дорозе ў жыцці, што б тэпло было. Кусьнік голубы прывэжэм на крэст і кветку застромім пахушчу. Словамі „Спасі і помілуй" попросім умом од душы...*

А пра тое, што маці піша вершы, расказала айцу Рыгору Верына дачка, Ева. Бо пра тыя вершы ведалі толькі ў царкве. Вера запісвала на рускай мове своеасаблівую хроніку прыхадскіх падзей, святаў і будняў, улічваючы таксама духоўныя вандроўкі прыхаджан і самой сябе. Вершы напісаны, хаця Вера не вывучала рускай мовы, з вельмі багатай лексікай, правільна, прытым вельмі таленавіта. Ды не пра свой талент думала сялянка, а пісала як дыхала — хвалячы Божае тварэнне і дарогі, вядучыя да Бога. Бачу поўныя акадэмічныя сшыткі вершаў, запісаных або аддрукаваных дачкой Евай, што скончыла русістыку. А другая дачка Веры і Яўгена Русіновічаў, Кася, вывучыла культуразнаўчую педагогіку...

Пакуль траплю ў мураваную, акуратную хату Русіновічаў, шукаючы паэткі, загляну ў гмінную бібліятэку, у дом культуры. Ці ведаюць тут што пра сваіх аўтараў, што займаюцца творчасцю на тэрыторыі Нарваўскай гміны. Бо ў суседняй Нараўчанскай гміне гмінныя дзеячы культуры вельмі ганарацца сваімі народнымі творцамі, арганізуюць ім сустрэчы па сваёй тэрыторыі з чытачамі і слухачамі, якіх збіраюцца поўныя святліцы. Чулі тут пра Міраслава Грыку — філасофа і празаіка ды Станіслава Паскробку — жывапісца з Рыбакоў, Кацярыну Сянкевіч — паэтку і мастачку з Граматнага... І дзядзька Мікола Лук'янюк, святой памяці, таксама пісаў... А пра тое, што шчырая прыхаджанка нарваўскай царквы, руплівая працаўніца на родных палетках, нешта піша — не чулі. Але ахвотна пацікавяцца яе творчасцю, а нараўчанскіх народных паэтаў запросяць усіх разам на сустрэчу ў бібліятэку, і сваю паэтку запросяць. І пашукаюць яшчэ, хто ў Нарваўскай гміне складае творы...

Дом Русіновічаў стаіць па вуліцы Міцкевіча, ды трапіць у яго няпроста. Тут матэматычны падлік ні пры чым! Ды не для таго трыццаць гадоў я блукаю па нашых мясцовасцях — трапіла! І мела шчасце, што дом не пуставаў, бо гаспадары, Вера і Яўген, увесь час пры рабоце — на гаспадарцы. Але якраз спадарыня Вера забегла ў хату, хаця неўзабаве паедзе ў вёску, каб управіцца. А само спёкся хлеб... Дастае гаспадыня спрацаванымі рукамі аржаныя буханкі з бляхаў, а зараз і возьмецца за свой сшытак...

— Часам находзіць ахвота пісаць. І пішу пра жыццё. Адышоў мой брат, напісала пра яго, на прыродзе. Жыву на прыродзе. І пра гэта пішу што бачу і чую. Калісь хацела паказаць свае запіскі Ані Кандрацюк, што блізка мяне жыла, але падумала, што яшчэ не пара... А была я ў Пачаеве, і верш пасля напісала. Як мы паехалі пакланіцца Нябеснай Царыцы Украіны. Тут усё маё адчуванне, як я там пабыла. Я нават не думала, што я штосьці з таго напішу. Камусьці штосьці далягае. Я вярнулася была з санаторыі, а старэйшая дачка кажа, каб я паехала ў паломніцтва. Дзе ж мне, такой хваравекай... Але гэта толькі пару дзён... Паехала, узабралася на святую гару ў малітве... І акрыяла духам і целам. А дагэтуль пісала на мове, якая раптам прыйдзе. *Белым обрусом стол покрыты, свет свечы гарыт... І так моліцца творение Бога Спаса і Отца...* Пішацца, як з душы ліецца.

Прыносіць гаспадыня новыя сшыткі. У санаторыі папрасілі яе напісаць верш. Напісала ім па-польску, як то „dobrze mieszkać w domku pod numerem 4 d" у санаторыі ў Ельцу, каб дацаніць КРУС, які накіраваў на лячэнне (смяецца).

— І кажу ім: у нас на Падляшшы свая мова. Дык кажуць, напішы на сваёй гаворцы. *У нас на Подлясю зэлёны лес ростэ, вэсной пролішчка цвітэ, летом сонцэ зэмлю согрэвае, дзядзько ягоды збірае. А позёмкі зацвілі, і чырвоные былі. Мы варэніе варылі, і ўсіх госцей кормілі. Дома ў дзежы заквас ходзіт, в полі жыто і пшэніца родзіт. Што я буду больш пісаці — трэбо до нас прыежджаці! Будзем есці хлеб з куцёй, летом, осеню, зімой! Хто прыедэ на Подлясе, будзе госцём у першым разе. Як прыедзе другім, трэцім, тогда зноў яго мы стрэцім!* Прачытала я гэты верш, а яны кажуць: „Хадзі, упішам у хроніку!" І так мой першы верш на сваёй гаворцы запісаны ў тую хроніку, што я была там, і як людзі даведаліся, што ёсць такая мова як наша. Можа, хтосьці і пасмяяўся, што такія сабе вершыкі... Дачка сказала айцу Рыгору, што я вершы пішу, а я так засаромелася. Якія там творы... Я тут госць. *Я прышла на свет сёй у госці. Нарадзілася ў вёсцы ў старой хаці на закаці, у палатках на памосці. Як я стала подрастаці, то на поле бацькі сталі мэнэ браці. Літом пару коні я погоняла, з косялкі жмэні скідала. Сталі пэрэвяслом іх вязаці, у ляшкі ўсе снопы ставяці. На конэц злапалі пэрэпэліцу, бо дожалі ўсю пшэніцу. Осэню картофлі матычкаю копалі, послі і суседом помогалі. Як рабілі мы на полі, цукеркув нэ было доволі. Сталі кастрогі паліці і картошку там пэчы. Смаковало то едзэне, бо в сем'е было задоволене. Добрэ будэм вспомінаці, Бога ўсюды прославляці. Так учылі нас бацькі, штобы памэталі родные куткі, Говорылі ўсем на сьвеці, што на вёсцы былі дзеці. А тэпэр пошлі до мяста. Наша вёска нэ возраста. Осталісь старые людзэ і сем'і ўжо нэ будзе. Толькі хаты пустошэют. А зімою снег нападэ і мороз на шыбу сядэ. Трэба нам нагрэці пэчку, на столе поставіць грумічну свечку. Старыкі ўсе ўміраюць, далеко од нас ступают, нэ вернуцца нікогда, бо адышлі далеко навсегда. Вёска станэ зароставці і ніхто нэ будэ знаці. Поколене промінае, зелём вёска заростае. Дэрва тожэ постарэют, вецёр лісця іх розвее, а насене з далека прынэсэ і в зэмлю глыбоко загрэбэ. Лес тут выростэ вэлікі і повстане тэрэн дзікі. Пташкі станут свіркотаці, песні свої співаці. Лугі заростут блюшчом і травою дзікой у нём. Кроты чуць здалека, крочут на своїх языках. Хто захочэ ў вёсцы жыці? Трэба дужо тут зробіці, а здороўе шановаці родны куток нэ забываці...* Так стала пісаць Вера Русіновіч на сваёй роднай мове. Апісваючы тое што бачыць і чуе. Па-свойму.

— Былі такія моманты, што я прабуджуся, пішу... Праз нейкі час тое кончу. Бо так бывае рэдка, што напішаш і скончыш тое адразу. Такі момант, момант. Дзіся магу начаць, а пасля магу і ў поле пайсці, працаваць. І там мне думкі прыйдуць. Бацюшка спытаўся ў мяне, ці я ўначы пішу. Так, штосьці крane душу. Адышоў мой брат, калі мне было 24 гады, яму 33. Уся мая радня адышла. Адышоў мой і другі брат, тата ў 57 гадоў, мама ў 83 гады. Бывала, сяду, чытаю маме, мама кажуць: „Файны пішаш вершыкі..." — „О так, мамо, прыходзяць мне ў галаву...". Наша мама былі вельмі мондрыя... Як прыйшла Ніна Абрамюкова сюды да нас, пагаварыла з нашай мамай і сказала, што такой асобы раней не спаткала, як Лідзія Назарук. Ну, што ж, такое жыццё на гэтым свеце — адны прыходзяць, іншыя адыходзяць... Кажаце, што мае вершы па-руску нядрэнныя, але што гэта толькі застанецца ў прыхадской хроніцы... Наша гаворка, катлоўская, цікавая, іншая, чым у суседніх вёсках. Я невучоная... Мая дачка кажа мне: „Мама, я скончыла студы, але верш не напішу, а ты напішаш". Дачка пісала казкі для дзяцей...

... Нарадзілася ў 1962 годзе, у Катлоўцы, як казаў вучыцель — на пэчэ. Хадзіла ў школу ў Ласінцы. Люблю ў царкву хадзіць. Вельмі мне балела галава ў жыцці. Пайшла я была вучыцца ў Сельскагаспадарчы тэхнікум, але яго не скончыла з-за гэтых боляў. Калі пачну пісаць вершы, ведаю, што ўсё дадзена Богам. І пакуты, і радасць. Калісь быў такі сляпец у Чаромсе. Мама завялі былі мяне на святую гару Грабарку. Аднаго калегу з Ласінкі кідаў прыпадак, а мне галава балела. Я стаяла каля царквы, на каленках хадзіла... Падышоў той чалавек, мама сказала яму дату майго нараджэння. А ён мне сказаў: „Табе сільна галава баліць. Хацела ты мець светлае жыццё, але было папсавана, табе трэба маліціся Богу. Гасподзь цябе ісцэліць, не ўрачы". Галава была мая пабіта; у пачатковай школе несла я на пошту пісьмо, адзін хлопец хацеў вырваць яго, я яму не давала, і ён мяне папхнуў на жалезную брамку, прабіў маю галаву. І былі страшныя болі. А цяпер мне менш баліць галава. Але я кожную мінуту свайго жыцця не магу другой асобе расказаць, але магу выказаць гэта пісьмова, на паперы, вершам. Прадстаўць тое жыццё на прыродзе, як нервы на лісточку. Калі мой брат памёр, я прадставіла вясну, лета, восень, зіму, і жыццё чалавека ў іх. І мне рабілася лягчэй. Быццам бы з мяне штосьці сыходзіла. О так о я вам расказала...

... Выйшла я замуж сюды, у Нарву. Генік, мужык мой, таксама не меў таты ад васьмі гадоў. Жылі сем лет са свякрухай. Потым гэтую хату паставілі. І браты мне памагалі. Цяпер гаспадарым. Гадуем авечак і курэй... Гаспадары мы. А вось мой хлеб. У мяне ў дзежцы заквас ходзіць бесперапынна!

І напісала новыя вершы Вера Русіновіч па-свойму, па-катлоўску. Як лякарства найлепшае родная мова на стурбаваную галаву, на натруджанае цела. На ніўскім конкурсе „Дэбют" спаткала яшчэ старэйшых дэбютантаў, больш за сем дзясяткаў маладых і старэйшых аматараў роднага слова. Ад шчырага хваляння заняло ёй голас. І напісала верш з падзякай нам за тое, што родным словам ратуем нашы душы. І пішуцца ёй словы, якія знайшла, якія даў ёй Бог.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Карцінкі з глыбінкі (6)

Аўтобусаў міжгарадской пасажырскай камунікацыі цяпер мала, але шафёры часам капрызнічаюць так, як гэта было калісь, калі іх было таксама мала, але многа было пасажыраў; цяпер вадзіцелі таксама чуюцца панамі нешматлікіх ужо пасажырскіх лёсаў. Ранішні аўтобус, што ў 5.45 ад'язджае з Беластока ў Бельск, едзе няспешна, да таго ж у самім Бельску мяняе трасу і заміж вуліцай Міцкевіча задзіўляе пасажыраў прагулачкай па Пілсудскага. На маю заўвагу пра спазненне шафёр груба лжэ, што нельга яму спяшацца. Аўтобус з Бельска ў Сямятычы, да ад'езду якога ў мяне павінна было быць дзесяць мінут запасу, рушыў затое раней табельнага часу, калі той спознены беластоцкі кіраваўся акурат у веткі бельскага аўтобуснага вакзала. Удалося мне бягом перапыніць сямятыцкі, якога шафёр таксама фальшыва тлумачыў мне, што спяшае, бо каля царквы шмат часу зойме яму продаж білетаў; на прыцаркоўным прыпынку забралася ў той аўтобус раптам трое пасажыраў. Калі шафёры халатна адносяцца да пасажыраў, гэта зноў не такая вялікая бяда — гэта ж зусім не таго рангу халатнасць, якая здарылася 26 красавіка 1986 года дыспетчарам Чарнобыля...

Гэтым разам мне ўдалося і ўжо каля восьмай гадзіны раніцы апынаюся ў Мілейчычах. Яшчэ з акна аўтобуса заўважаю двое людзей абнаўляючых крыж на цэрквіску ў цэнтры былога калісь горада. Заходжу пацікавіцца дзеяннем. Гэта мілейчыцкі вікарны са сваёй матушкай рыхтуюцца да тамашняга майскага свята Міколы. Мілейчыцкая царква прысвечана велікамучаніцы Варвары і свята ў яе гонар намінальна з'яўляецца галоўным у прыходзе, аднак яно выпадае ў халодным снежні і збірае не надта многа народу. Затое другое прыхадское свята ў гонар святога Мікалая выпадае ў мажорным маі і збірае значна больш людзей, яно адзначаецца з большым пад'ёмам вернікаў; царкоўка ў гонар епіскапа Мір Лікійскіх знаходзіцца на старых мілейчыцкіх могілках. А царква, што раней стаяла на згаданым цэрквіску, была перавезена ў 1887 годзе ў Зубачы, ды ёй там не пашанцавала — яе ў 1969 годзе праглынуў агонь...


Цэрквіска ў Мілейчычах


Царква св. Варвары ў Мілейчычах


Касцельная званіца ў Мілейчычах


Будынак былой сінагогі ў Мілейчычах

Мілейчычы неяк не прыцягвалі ўвагі гісторыкаў. Няма пра іх згадкі ні ў „Старажытнай Польшчы” Балінскага, ні ў манаграфіі Гродзенскай губерні Баброўскага. У Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага таксама не забагата пра мясцовасць; там дзве кароткія згадкі. Пра *Mielejczyce*: „Wieś nad rz. Krupą, pow. brzesko-litewski, na płn.-zach od Brześcia. Była tu par. katol. dek. brzeskiego, z kaplicami Chlewiszcze, Nurzec i Połowce.” І пра *Milejczyce*: „Miasteczko nad rz. Krupą (dopł. Nurczyka), pow. brzeski, o 50 wiorst na pn-zach. od miasta powiatowego, 1588 mieszkańców (771 męż., 817 kob.), w tej liczbie 627 żydów; cerkiew par.; poprzednio kościół kat. parafialny, dziś skasowany. Otoczone borami i bagnami, powierzchnia niska, grunt zły, piaszczysty. Parafia prawosł. ma 2164 wiernych (1091 męż., 1073 kob.); oprócz cerkwi paraf. są 3 filialne i kaplica na cmentarzu grzebalnym”. Слоўнік Брокхаўза і Эфрана: „Милейчицы или *Мелейчицы* — местечко Гродненской губернии, Брестского уезда, при реке Крупе, в 64 верстах от уездного города. Дворов 286, жителей 2382. 3 православных церкви, школа, аптека, 7 лавок”. Расійская яўрэйская энцыклапедыя з пачатку мінулага стагоддзя: „Милейчицы — мест. Гродн. губ., Брестск. у. По переписи 1897 г. жит. — 1.685, изъ коихъ 814 — евр. Деревянная синагога построена въ 1857 г.; кладбище возникло въ 1865 г. Коробочный сборъ [від падатку] въ сумме 400 руб. расходуется на содержаніе врача. Имеется талмуд-тора”.

Ды і сама гісторыя не надта ласкава абыходзілася з Мілейчычамі. У 1615 годзе берасцейскі падсудак Багдан Тымінскі пісаў: „Roku tysiąc sześćset czternastego Nowembra dnia czternastego doyrzałem wielkiego zubożenia zniszczenia tego miasteczka tak przez żołnierza, iako z dopuszczenia Bożego przez grady, przez podłość gruntu i ogień...”.

Яшчэ пра касцёл. Пабудаваны ў 1740-44 гадах, пасля Студзеньскага паўстання стаў у 1866 годзе Свята-Духаўскай царквой; рэвіндыкаваны католікам у 1917 годзе. Таму ў 1880-х гадах адну царкву можна было аддаць у Зубачы.

Гмінны партал: „Osada istniała już w XIII wieku. Milejczyce w XVI w. stanowiły ważny węzeł komunikacyjny. Wtedy to król Zygmunt Stary podróżując po naszych terenach, w drodze z Mielnika do Bielska Podlaskiego ustanowił lokację miasteczka. 4 maja 1516 roku Milejczyce otrzymały miejskie prawo magdeburskie z rąk króla Polski Zygmunta Starego. Milejczanie w 1549 roku posiadali 180 włók ziemi. W tym okresie w Milejczycach było 3 kowali, 3 kuśnierzy, młynarz, 2 garncarzy, 2 krawców, szklarz, piecznik, szewc, siedielnik [вытворца сёдлаў] i 9 rzeźników. Charakterystyczną cechą miasteczka była spora liczba karczm — w Milejczycach było ich: 2 miodowe, 15 piwnych i 10 gorzałczanych. Mieszczanie milejczyccy otrzymali następujące przywileje: 2 jarmarki — 8 maja na Św. Stanisława i 4 grudnia na Św. Barbary. W 1529 r. powstała parafia katolicka. Według lustracji z 1566 r. istniał tu kościół katolicki św. Stanisława, cerkiew św. Barbary i św. Mikołaja, dwór królewskiego starosty i 25 karczm. Podczas III rozbioru Polski Milejczyce znalazły się pod władaniem Rosji. W XIX wieku Milejczyce, położone z dala od nowych szlaków komunikacyjnych, straciły swoje znaczenie. W 1900 r. została zbudowana cerkiew prawosławna pw. św. Barbary”. Папярэдняя царква св. Варвары згарэла ў 1859 годзе.

Жыгімонт Стары ў прывілеі ад 4 мая 1516 года патрабаваў, паводле Ігната Даніловіча: „Skoro my sami osobiście do Milejczyc przyjedziemy, wtedy każdy da dla nas po półćwierci owsa, po kurczęciu, a wszyscy razem kopę gęsi i cztery kamienie [камень — даўняя адзінка масы каля трынаццаці кілаграмаў] łoju na światło. Innych danin prócz tego składać nie powinni, ani służb żadnych odbywać i nie dawać podwód. Na rynku mieć powinni karczmy, browary kotły pomierne i jatki wolne od wszelkiego płatu, tylko co sobota dadzą na utrzymanie naszego urzędnika sochaczkę [мясны крук] tak jak w Brześciu. Wolno im w rzece Nurcu łowić ryby i raki, prócz naszego stawu...”.

Калі Мілейчычы страцілі гарадское права — погляды наконт гэтай даты поўнасцю плюралістычныя. Іна Соркіна з Гродна ў сваёй кнізе пра мястэчкі Беларусі падае 1776 год. Артыкул пра Мілейчычы ў Вікіпедыі ды гмінны партал мецяць гэтую падзею зараз пасля заканчэння Першай сусветнай вайны. У той жа Вікіпедыі пералік гарадоў, якія страцілі права звацца горадам, падае, што для Мілейчыч быў гэта 1945 год. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з пачатку мінулага стагоддзя назваў Мілейчычы вёскай...

Гмінны партал далей: „Pierwsze informacje o Żydach z Milejczyc pochodzą z końca XVI wieku. Gmina żydowska powstała tu w połowie XVIII wieku. Spis, który przeprowadzono w 1921 roku dowodzi, że w Milejczycach mieszkało wtedy 648 Żydów. Natomiast w roku 1935 spośród około 2000 społeczności milejczyckiej, 894 to społeczność żydowska. Po 17 września 1939 roku w Milejczycach przebywało 1275 Żydów. Żydzi w Milejczycach trudnili się różnego rodzaju usługami, handlem, zakładali fabryki. Wiadomo, że istniały dwie kaflarnie, których właścicielami byli Levizon i Gorfajn. W 1942 r. utworzone zostało przez Niemców getto dla Żydów, a 5 listopada 1943 r. nastąpiła jego likwidacja”.

Партал яўрэйскай спадчыны Штэтл: „W okresie międzywojennym Milejczyce były miejscowością letniskową ludności żydowskiej, przyjeżdżającej tu na wypoczynek głównie z Białegostoku i Warszawy, a także z Europy Zachodniej. Miasteczko uważano bowiem za kurort, gdzie lasy sosnowe miały leczniczy wpływ na drogi oddechowe, co miało pomagać chorym na gruźlicę. W 1927 r. powstała w związku z dużym napływem żydowskich kuracjuszy duża synagoga (w miejsce rozebranej starej drewnianej z 1857 r.) istniejąca do dzisiaj. Liczba przyjezdnych, głównie Żydów, w sezonie wynosiła od 2 do 4 tysięcy”.

У Мілейчычах у мяне аставалася каля паўгадзіны часу да ад'езду аўтобуса ў напрамку Вычулак і я ўспеў яшчэ разгледзецца па найбліжэйшым наваколлі тамашняга аўтобуснага прыпынка. Найцікавей выглядае там збудаваны ў 1927 годзе будынак сінагогі; ён пакуль што выглядае безгаспадарна — гэта толькі прыкрытыя дахам сцены, аднак тры гады таму будынак стаў уласнасцю мясцовай гміны. Ранейшы яго ўладальнік, Фонд аховы яўрэйскай спадчыны ўзамен за зямельны ўчастак у Мядзвежыках здаў будынак гміне. Пакуль што не надта відаць, што ў ім будзе, бо гміна мабыць не мае сродкаў на яго адаптацыю для ўласных мэтаў. Выпадае меркаваць, што з часам вернецца туды мілейчыцкі культурны цэнтр, які і быў там у перыяд г.зв. камуны. Стандартная таблічка помніка даўніны так інфармуе пра будынак: „Synagoga zbudowana w 1927 roku na miejscu starszej, drewnianej z 1857 roku. Funkcjonowała do roku 1941, gdy została zdewastowana przez wojska niemieckie. Po zakończeniu wojny znajdowało się tu kino, biblioteka i ośrodek kultury”.

Пра гэты аб'ект пісала каля пяцідзесяці гадоў таму і „Ніва”; у тую эпоху пра ранейшае яго сакральнае прызначэнне не згадвалася: „Апрача кінатэатра памяшчаецца тут клуб дзяцей школьнага ўзросту рабочых і працаўнікоў мясцовае кафлярні, які займае даволі вялікую залу. Дарэчы сказаць, што ў гэтай зале ёсць і даволі добрая сцэна, бо калісь быў гэта клуб для дарослых. Ёсць тут таксама „закансерваваныя” ў пыле нейкія музычныя інструменты, якія аж плачуць, каб крануліся іх гаспадарскія рукі. Адбываюцца, праўда, час ад часу ў гэтым „клубе” маладзёжныя забавы, якія не заўсёды культурныя. Пачаткова будынак належаў да ГРН у Мілейчыцах, пасля ўладальнікам яго стала Ваяводскае праўленне дробнай прамысловасці, якое аддало яго на карыстанне для дырэкцыі кафлярні ў Мілейчыцах. У той жа час Павятовы суд у Сямяцічах выдаў пастанову, што будынкам павінна апекавацца мясцовая ГРН”.

Пасля грамадскіх перамен у нашай краіне будынак быў вернуты польскай яўрэйскай абшчыне. Мілейчыцкія культурныя ўстановы яшчэ раней перабазіраваліся ў тамашняе пажарнае дэпо, але ж гэта не месца для культурных мерапрыемстваў. Цяпер быццам законна можа тамашняя культура перанесціся ў былую сінагогу, але там зараз адно голыя сцены. І хто ведае, ці тамашніх культурых праблемаў не вырашыць звычайная дэмаграфія. З кафлярняй справілася яна паспяхова — навакольныя (і мясцовыя таксама) вяскоўцы пераносяцца ў такія месцы, дзе кафля незапатрабаваная.

Аўтобус у Вычулкі прыехаў у Мілейчычы з пятнаццацімінутным спазненнем. Шафёр быў заняты хвалюючай размовай па мабільніку пра нейкія пяць злотаў. Закончыў размову, выехаўшы на брукоўку ў напрамку Тымянкі.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# І тут жывуць людзі....

Пад такім дэвізам праходзіла свята беларускай культуры ў Чаромхаўскай гміне. Свята адбылося 15 чэрвеня, у нядзелю, у вёсцы Кузава. Сам фэст з цыкла «І тут жывуць людзі», арганізаваны Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы, трыццаць шосты па ліку. У фэсце прымалі ўдзел беларускія калектывы з вёскі Чаромхі і Вулькі-Тэрахоўскай, гурты «Дэкада-Банд» з Беластока і «Арт-Пронар» з Нарвы. Мерапрыемства вялі Паўліна Паўлючук і Марыёля Герман. Мы ўдзельнічалі трэці раз: дарослыя члены Камянецкага раённага грамадска-культурна-асветнага аб'яднання «Спадчына» і дзеці — удзельнікі ўзорнага клуба любіцеляў фальклору «Катрынка». Вельмі прыемна было пачуць словы падзякі за падрыхтаванае выступленне з вуснаў войта Чаромхаўскай гміны Юрыя Шыкулы, які быў вельмі ўражаны канцэртнай праграмай беларускага калектыву і выказаў пажаданне на далейшае супрацоўніцтва ў тым жа кірунку.


Калектыў «Катрынка» КРГКАА «Спадчына»


Калектыў «Беларускія цявінкі» з пасёлка Белавежскі (Беларусь)


Калектыў з Вулькі-Тэрахоўскай


Калектыў з вёскі Чаромхі

На гэты раз у фэсце прымала ўдзел і ўзорнае фальклорнае аб'яднанне «Белавежская цявінка» з беларускага пасёлка Белавежскі.

У час фэсту працавала таксама крама з беларускай літаратурай і рукадзеллем.

Вялікі дзякуй войту Чаромхаўскай гміны Юрыю Шыкуле, дырэктару Гміннага асродка культуры ў Чаромсе Барбары Кузуб-Самасюк за запрашэнне на свята і працаўнікам за цёплы прыём. Сардэчныя словы падзякі выказваем нашым сябрам з Таварыства прыяцеляў Кляшчэлеўскай зямлі Марыі Клімовіч, Паўлу Клімовічу, Яўгену Верамчуку, Аляксандру Казіміруку за дапамогу ў падрыхтоўцы да свята і за транспартныя паслугі пры перасячэнні мяжы.

Дзякуючы падобным мерапрыемствам знікаюць межы паміж рознымі нацыянальнасцямі.

Спадзяемся на далейшае супрацоўніцтва.

**Старшыня КРГКАА «Спадчына» Людміла ДУДАР**
**Фота Аляксандра ШЧУРАВА**




Паколькі сфера ўжытку беларускай мовы сярод беларусаў няўхільна звужаецца, няма нічога дзіўнага, што і сярод спартсменаў не выкарыстанне не большае за выкарыстанне сярод тых, хто займаецца нечым іншым. Таму бывае даволі дзіўна і разам з тым прыемна бачыць нейкае, хай сабе рэдкае, праяўленне беларушчыны ў аматараў таго ці іншага віду спорту. Літаральна ў другой палове чэрвеня Байнэт папоўніўся выдатным беларускамоўным сайтам, прысвечаным аднаму з усходніх адзінаборстваў — тайскаму боксу. Месяцца новы сайт у інтэрнэце па адрасе **http://patriotgym.by** і з'яўляецца віртуальным прадстаўніцтвам мінскага клуба „Патрыёт”.

На галоўнай старонцы сайта нам адразу паведамляецца пра яго „беларускамоўнае нараджэнне” — „Патрыёт” запусціў першы беларускамоўны сайт байцоўскага клуба ў краіне”, што, канешне, з'яўляецца важнай навіной для ўсіх прыхільнікаў беларушчыны, незалежна ад ступені цікавасці ўсходнімі адзінаборствамі агулам і тайскім боксам (муай-тай) у прыватнасці.

Выгляд сайта даволі прывабны. Ад яго так і зіхаціць дынамікай, якая ўласціва ўсяму, што звязана са спортам. Акрамя таго, пададзеныя ў чорна-белым выкананні фотаздымкі надаюць сайту нейкую сталасць, хоць, як мы ведаем, вэб-старонка не праіснавала яшчэ і аднаго месяца.

На сайце, акрамя галоўнай старонкі, сем рубрык. Выйсці на іх месяцца ніжэй за галоўную выяву сайта — фотаздымак з беларускамоўным тайскім баксёрам Віталем Гурковым, лагатыпам байцоўскага клуба і кароткага анонса пра вышэйзгаданае паведамленне. Дарэчы, калі клікнуць на анонс паведамлення, то мы пэройдзем на асобную старонку, не пазначаную сярод іншых.

„Як падкрэсліваюць у „Патрыёце”, дзякуючы новаму сайту тут плануюць прыцягнуць у клуб як мага больш таленавітых дзяцей, якія падтрымаюць байцоўскія традыцы старэйшых калег. Таксама ў клубе разлічваюць на тое, што прыклад беларускамоўнага сайта натхніць іншыя спартовыя арганізацыі актыўна карыстацца роднай мовай. Бо як інакш выхоўваць у беларусах патрыятызм і адданасць сваёй краіне!” — гаворыцца там, і ў апошнім сказе ставіцца чамусьці клічнік, а не адпаведны логіцы і нормам беларускай мовы пытальнік.

Больш даведацца пра муай-тай цікаўны карыстальнік можа не блукаючы па прасторах інтэрнэта, а толькі зайшоўшы на старонку „Наш спорт”. Акрамя тайскага бокса, там кораценька распавядаецца пра кікбоксінг, які з'яўляецца родным муай-тай.

Адной з рыс, што характарызуе ўладальнікаў сайта як сур'ёзных людзей, з'яўляецца прадстаўленне тых, з каго ў большасці складаецца „Патрыёт”. На старонцы „Трэнеры” мы можам пабачыць трэнерскі склад клуба, а на старонцы „Байцы” асноўны байцоўскі.

Больш падрабязна даведацца аб перамогах і поглядах некаторых сяброў клуба можна на старонцы „Мультымедыя”. Там месяцца відэаролікі пра асобных тайбаксёраў, а таксама матэрыялы рэкламнага характару пра цэлы клуб.

„Трэніравацца ў клубе „Патрыёт” можа любы чалавек, незалежна ад нацыянальнасці і рэлігійных поглядаў. Галоўная ўмова — адсутнасць медыцынскіх супрацьпаказанняў”, — кажуць спартоўцы на старонцы „Умовы сяброўства”. Па іх сцвярджэннях, штомесячная плата за заняткі адна з найменшых у Мінску — каля 75 злотых у пераліку з беларускіх рублёў.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



### Святар, які перажыў цэлы век

## 130 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Вернікоўскага

У 1984 годзе ў Оршы памёр Аляксандр Вернікоўскі, беларускі праваслаўны святар, вязень савецкіх канцлагераў. Пра гэтага чалавека грамадскасць амаль не ведае. А між тым біяграфія гэтай асобы вартая больш пільнай увагі. Нарадзіўся ён 25 ліпеня 1884 г. у Вільні, паходзіў з сям'і псаломшчыка Віленскага Прачысценскага сабора Льва Вернікоўскага. У 1893-1897 гг. вучыўся ў Замкавым двухкласным прыходскім вучылішчы. У 1901 г. скончыў Віленскае Андрэеўскае праваслаўнае духоўнае вучылішча. У 1901-1907 гг. вучыўся ў Мінскай духоўнай семінарыі. З чэрвеня 1907 г. — канцылярскі служачы Віленскага філіяла Дзяржаўнага банка. У траўні 1908 г. прызначаны псаломшчыкам у царкву Казанскага пяхотнага юнкерскага вучылішча. У жніўні 1909 г. паступіў у Казанскую духоўную акадэмію, скончыўшы якую атрымаў ступень кандыдата багаслоўя. Са жніўня 1914 г. — канцылярскі служачы Казанскай кантрольнай палаты.

У канцы 1914 г. Аляксандр Вернікоўскі быў прызначаны на пасаду намесніка інспектара Тульскай духоўнай семінарыі, адначасна выкладаў у ёй нямецкую і французскую мовы. Вярнуўся ў Заходнюю Беларусь у лютым 1922 г. Працаваў псаломшчыкам у Нараўцы Белавежскага павета. У 1922-1923 гг. быў першым дырэктарам Беларускай гімназіі імя Францішка Скарыны ў Радашковічах. Ініцыятарам яе стварэння быў Аляксандр Уласаў — жыхар мясцовага наваколля, былы рэдактар першай беларускай газеты „Наша ніва”, а ў той час сенатар у польскім сейме ад насельніцтва Заходняй Беларусі. Гімназія ў Радашковічах была сапраўдным асяродкам развіцця беларушчыны. Дарэчы, яе адміністратарам працаваў тады Тодар Міхайлавіч Вернікоўскі, стрыечны брат дырэктара, таксама вядомы грамадскі дзеяч.

З кастрычніка 1923 г. Аляксандр Вернікоўскі — настаўнік гісторыі, царкоўных спеваў і беларускай мовы ў Віленскай праваслаўнай духоўнай семінарыі. Пэўны час жыў у Дубічах-Царкоўных. Пазней пераехаў у Мінск, дзе служыў настаяцелем Свята-Петрапаўлаўскай царквы на Нямізе. У час Другой сусветнай вайны ў жніўні 1944 г. браў удзел у сходзе духавенства, дзе выступіў з асуджэннем камуністычных парадкаў. Ці выступаў Аляксандр Вернікоўскі за аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы — у ягонай кароткай біяграфіі не гаворыцца. Магчыма, беларускія гісторыкі маюць на гэты конт пэўныя звесткі. Савецкія ўлады не маглі прапусціць аніводнага выступу супраць камуністычнай ідэалогіі. Таму не дзіва, што Вернікоўскі за сваю пазіцыю быў арыштаваны органамі НКВД 3 студзеня 1945 г., асуджаны на 5 гадоў канцлагераў. Тэрмін зняволення адбываў у розных месцах Савецкага Саюза: спярша на Урале, потым у Сібіры і Казахстане.

У Беларусь Вернікоўскі вярнуўся ў 1950 г. Служыў настаяцелем у праваслаўнай царкве ў мястэчку Дварэц (сённяшні Дзятлаўскі раён), потым быў святаром у мястэчку Леніна (Слуцкі раён). Мясцовасць Леніна раней называлася Раманава і была перайменавана саветамі. Дарэчы, паблізу Раманава ў Свята-Духаўскай царкве вёскі Падлессе знаходзілася цудатворная ікона. Выйшаўшы на пенсію, Аляксандр Вернікоўскі пераехаў на сталае жыццё да свайго сына Святаслава ў Оршу. Зусім крыху не дажыў да ста гадоў.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чаромхаўскі аповед (13)

ных запамяталіся мне Андрэй Каршуноў, Ігар Халадоў, Алік Панасевіч і маладзенькі Дзіма (прозвішча не запамяталася). Новы камандзір хутка ладзіў знаёмствы з чыгуначнікамі. Любіў вы-

Першамайскае шэсце з канца 1970-х гадоў. У першым радзе (пасярэдзіне) падпалкоўнік Аляксандр Шчарбіна

Капітан Валянцін Крусь з жонкай і дзеткамі

Пасля пераводу з канторы перадачы на станцыйныя склады перамяніліся і мае службовыя абавязкі. Па штаце я лічыўся загадчыкам склада. Працаваў я сам, выдаваў працаўнікам рухова-гандлёвай службы і функцыянерам СОК летнюю, зімовую і ахоўную вопратку, канцылярскія тавары. Забяспечваў я ў неабходныя сродкі і прадметы станцыю і ўстановы, якія з ёю супрацоўнічалі. А былі імі Пагранічная ахова, Мытная служба і ЗКУ. Камендатура савецкіх войск забяспечвалася на станцыйных складах у канцтавары і абсталяванне службовых кабінетаў. Зважыўшы на станоўчыя адносіны, якія склаліся паміж ЗКУшнікамі і чыгуначным начальствам, афіцэрам выдавалася не толькі абсталяванне для службовага офіса, але і для іх кватэр. Выдаваўшы мэблю начальніку ЗКУ, я не цікавіўся куды трапяць пісьменны стол ці крэслы. Лічылася адно месца прызначэння і пасведчанне атрымання. Выдадзеныя прадметы прапісваліся ў інвентарнай кніжцы, якая знаходзілася ў кожнага карыстальніка. Такім чынам у інвентарную кніжку прапісваліся тапчаны, абсталяванне для кухні ці халадзільнік у прыватную кватэру афіцэра. Праўда, фінансавыя рэвізоры ў час кантролю такія „здзелкі” прыпісвалі на вынік хібаў, але службовых наступстваў не патрабавалі. Мая сувязь з ЗКУшнікамі замацоўвалася з дня на дзень. Не было выпадку, каб камандзір, нават такі скрыты як падпалкоўнік Шчарбіна, адмовіў маёй просьбе. Вядома, як дружба, дык дружба!...

На зломе 1986/1987 гадоў пачалася будова тэхніча-адміністрацыйнага павільёна і вакзала ў Чаромсе. Перамянілася начальства ЗКУ. Перад тэрмінам контракта па прычыне здароўя Чаромху пакінуў падпалкоўнік Аляксандр Шчарбіна. Па сённяшні дзень у хроніцы Гміннага асяродка культуры захаваўся па ім памятны здымак з першамайскага шэсця. Неўзабаве за ім выехаў Валянцін Крусь з жонкай і дачушкамі. Капітан Крусь перасяліўся ў Брэст і аформіўся ў пагранічнай службе на чыгуначным пагранпераходзе. Такую інфармацыю перадала мне санітарка Часлава Вілюк разам з памятным здымкам сямейства Крусяў. Абедзве сям'і ўтрымоўвалі з сабою сардэчныя адносіны. Пасля Шчарбіны камандзірам стаў падпалкоўнік Славамір Сала, украінец па нацыянальнасці. Быў ён невысокага росту, рухавы ды гаваркі. Меў сімпатычную жонку Людмілу. З яго падначаленых запамяталіся мне Андрэй Каршуноў, Ігар Халадоў, Алік Панасевіч і маладзенькі Дзіма...

піць і новыя кантакты замацоўваліся пры кілішку. Да падначаленых афіцэраў ставіўся стрымана. Калі хтосьці не спадабаўся, дык шукаў ключкі, каб яго вышвырнуць. Такім чынам пазбыўся старшага лейтэнанта Андрэя Каршунова. А прычынай былі бабскія спрэчкі. Пасправаліся, разумееца, жонкі, а пацярпеў нявінна мужык...

Са Славікам Салам я ўтрымоўваў сяброўскія адносіны з першых дзён знаёмства. Спатыкаліся амаль штодзень, як не ў яго кабінеце, дык у мяне на складах. Разам выязджалі на пакупкі ў Гайнаўку і Бельск, хадзілі на грыбы ў кузаўскі лес. А калі траплялася нагода, дык сядалі разам да застолля. А такое трапілася ў прыпушчанскай вёсцы...

*(праця́г будзе)*

Уладзімір СІДАРУК

# „Купальночка” ў Нараўцы

Летняя Купальская ноч гэта язычніцкае свята, калі дзяўчаты і хлопцы знаёміліся бліжэй. Хлопцы кідаліся за вянкамі, скакалі праз агонь. Калісь гэта было індывідуальнае свята. Проста: збіралася моладзь, шукала папараць-кветку, паспявала, павесялілася.

У суботу, 12 ліпеня гэтага года а гадз. $19^{30}$ у амфітэатры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) адбудзецца фэст „У пошуках папараць-кветкі” з абрадам „Купальночкі”. У праграме свята, між іншым, карагод мастацкіх калектываў, конкурс на найпрыгажэйшы вянок, пусканне вянкоў з запаленымі свечкамі на рэчку Нараўку, запаленыя кастры на берагу ракі ды феерверкі, а таксама народнае гулянне да раніцы пры музыцы калектыву „Аксель” з Нарвы.

На вялікай сцэне ў амфітэатры выступіць дзесяць мастацкіх калектываў, у тым ліку пяць з Беларусі: „Галасы Палесся” з Брэста, „Надзея” з Пружан, „Арліца”, „Сунічкі” і „Вечарынка” з Каманца. З Беласточчыны на „Купальночцы” заспяваюць ды зайграюць „Верасы” з Монек, „Цаглінкі” са Старога Ляўкова, „Нараўчанкі” з Нараўкі, „Avanti” з Васількова і „Прымакі” з Міхалова.

(яц)

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. рака ў Талачыне = 6 _ 9 _ 3 _ 18 _ 19 _;
2. кофе = 2 _ 15 _ 7 _ 8 _;
3. літургічнае адзенне святара = 14 _ 12 _ 11 _ 10 _;
4. вышэйшы падраздзел у сістэматызацыі раслін і жывёл = 13 _ 5 _ 4 _;
5. хвойнае вечназялёнае дрэва (*Taxus baccata*) = 16 _ 17 _ 1 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | | | 6 | 7 | 8 |
| | | | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 23 нумара**

Вац, дым, Печ, хан, цюк, чудзь, чэмер, шаль.

Рашэнне: **Лепш мець адну рэч, чым чакаць дзвюх.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 06.07 — 12.07

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш вельмі раздражнены (6-10.07.); дбай аб адпачынак, масаж, схадзі на трэнажорню, сядзь на ровар. Не пераванічвай праблем, усё складзецца. Узбуджэнне і нецярпенне, з якімі ты гатовы фінансаваць любую ідэю, у канчатковым рахунку прынясуць табе сур'ёзныя страты. Калі маеш справу з буйнымі матэрыяльнымі сродкамі, неабходна табе падумаць больш за сем разоў. Негатыўны энергетычны ўплыў з боку можа выклікаць паломку тваіх асабістых рэчаў і інструментаў.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш моцна запрацаваны, возьмешся за ўсе заданні, хутчэй сола чым у кампаніі (да 26.07.). Прыйдзе час на адважнае дзеянне (5-9.07.). Будзеш талковы і разумны, каб нічога не папсаваць. Праводзь важныя размовы. 7-11.07. крыху палегчыцца ў атмасферы ў сужонстве; абое глянеце на сябе з большай адлегласці. Можаш шмат дасягнуць у актыўным заняцці сваёй асобай (аж да канца месяца), але не сядай на дыету.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш энергічны, цікавы свету, вабны для іншых. Схільнасць да кампрамісу. З 11.07. гарачыя рандэву. Сябры дадуць табе свабодную руку і не будуць цябе ацэньваць. Дбай аб добрыя кантакты з кіраўніцтвам і супрацоўнікамі, працягні дамовы. Не раскідвайся грашыма (увесь ліпень). І будзь уважлівым — цікуюць дробныя кантузіі.

**(23.06. — 23.07.)** Час (7-11.07.) паўплывае дысцыплінуюча на твае дзеянні, талковыя і ўпартыя. Людзі будуць лаяльныя, а падарожжы — павучальныя. 12 ліпеня папсаванне настрою; з-за няўважлівасці падвяргнешся сур'ёзным турботам. Але калі што табе не выйдзе, абаронішся. Калі хтосьці з тваіх сваякоў хварэў дыябетам, і ты правер свой цукар. 6-10.07. на працы магчымы канфлікт з супрацоўнікам; старайся пазбягаць канфліктаў.

**(24.07. — 23.08.)** Наўкол цябе штораз больш прыязных табе людзей. Варта спатканца з сябрамі і не шкадаваць ім часу, выбрацца разам на ўлонне натуры. Але ў гэты час не паспрачайся з кіраўніцтвам! Пільнуйся, каб з-за аднаго неразважнага твайго руху не пазбавілі цябе ўплываў! 6-10.07. запальчывасць і лішняя ўвага да дробязей; не рызыкуй і будзь уважлівым на дарозе, за рулём.

**(24.08. — 23.09.)** У бізнесменаў наперадзе незвычайна ўдалыя дагаворы і здзелкі, а работнікі на акладзе могуць разлічваць на яго павышэнне. У любым выпадку памятай аб тым, што не ўсё зможаш добра зрабіць у адзіночку, затое ў калектыве, ды са староннай дапамогай — колькі заўгодна. Дамам цяпер самы час заняцца сваёй знешнасцю: эфект ад розных дыет, касметычных працэдур і іншых падобных маніпуляцый будзе надзвычайным.

**(24.09. — 23.10.)** Ніхто не зраўняецца з табой на працы. Будзеш адказны і спелы. Варушыся. Пільнуй тэрміну візітаў у лекара. Прыйшоў час, каб змяніць свой лад жыцця. Лепш не займайся справамі іншых людзей — дай ім магчымасць вырашыць свае праблемы самастойна. Не давай парады блізкім сябрам і знаёмым — хай яны самі выбіраюць, што і калі ім рабіць, якую мэблю купляць, з кім заключаць саюзы і з кім не мець ніякіх зносін.

**(24.10. — 22.11.)** Можа прыйсці вялікае гарачае пачуццё (11-15.07.). Сувязь будзе глыбокая і асабліва жарсная, хаця неабавязкова трывалая. Многа энергіі на рэалізацыю намераў звязаных з домам і сям'ёй. Засяродзішся на ўласных дасягненнях.

**(23.11. — 22.12.)** Добры час на выезды з сям'ёй і прыём гасцей. 5-9.07. на працы будзеш мець давер шэфа, а будзеш мець шмат магчымасцей пахваліцца сваімі ўнікальнымі здольнасцямі. Але 6-10.07. можаш блага ацаніць сітуацыю, у кепскіх радах будзеш дашуквацца мудрасці, даверыш асобе, якая не будзе мець мірных намераў. Скажы „не!” ахвоце хуткага і лёгкага ўзбагачэння!

**(23.12. — 20.01.)** Цяжка табе будзе адобрыць рашэнні блізкіх, таму што ўвядуць яны агромныя змены і ў тваё жыццё. 6-10.07. хтосьці моцна цябе падвядзе. Але з 10.07. будзеш ужо празорлівы і з вострай інтуіцыяй. У здароўі будзь памяркоўным.

**(21.01. — 19.02.)** Форма ненайлепшая, прытармазі. Асабліва 12.07. адпачывай, не выхіляйся. Але псіхічная форма і настрой някепскія, і на працы, хоць атмасфера можа быць пакрудная, нічога не страціш.

**(20.02. — 21.03.)** 6-10.07. за неразважныя рашэнні і дзеянне на вар'яцкіх паперах можаш заплаціць высокую цану; трымайся ранейшых вызначэнняў. Дома таксама асоба якую ты, здаецца, ведаеш, можа паказаць зусім іншы твар. Але добрае здароўе і настрой цябе не пакінуць!

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

Бобенкі няма на карце. — Нас лічаць хутарам, — кажа Лідзія Назарук. — Нават у дакументах пішуць, што тут Калёнія Старына... Мала дзе ў свеце знойдзеце такую калёнію. Пушчанскі хутар хутчэй напамінае сімвалічны канец свету або крупінку, якая адбілася ад ядра і настальгуе па цэласці. Кволае, адзінокае зярнятка... І калі ўлічыць, што ў большасці хатак дажывае аднадзве душы, вёсачка здаецца яшчэ больш загубленай і маленькай...



# Без долі на канцы свету!

Праз акно хаты маёй гераіні відаць жалезны кардон, то-бок польска-беларускую мяжу — зялёную сцяну лесу. Мяжу вызначае заараная палоска зямлі, за ёй драцяная сетка. Пушчанская звярына ўмее яе пераадолець, чалавек баіцца. Уся жалезнасць заключаецца ў псіхалагічнай недаступнасці; лепш не глядзець і не думаць. Ды як забыцца? Роднае, што апынулася на другім баку, як ампутаваная частка цела дзіўна балела. Лідзія Назарук няраз думала: лепш каб асталіся з людзьмі на беларускім баку. Можа там, у сваёй старане, сярод сваіх людзей ёй быў бы наканаваны іншы лёс.

* * *

— Дажыліся, што і платоў няма каму паладзіць, — Лідзія Назарук, хоць жыве пад жалезным кардонам, ведае колькі значыць салідны плот і мужчына ў пушчы. Без гэтага няма гаспадаркі. Год таму, калі яшчэ сяк-так трымалася агароджа, трымалі казулю. Каб сваё малачко было, каб крыху гною сабраць для агарода. Ну, але што варты плот без гаспадара? Пачаў хіліцца, губляць астраколы. Казу хутка аддалі для людзей, тут жа ваўкі заражуць...

Яшчэ як Славік жыў гаспадарка сяк-так трымалася. І надзея была, што ён падлечыцца, работу знойдзе, асабістае жыццё наладзіць. Чатыры гады будзе як сын памёр. Якая ў яго смерць дзівосная атрымалася. Доўга хварэў, ныркі перасталі працаваць. Напух жывот, ногі папухлі. Аж страшна глядзець было. У рэшце рэшт рашыўся ў Дубічы з'ездзіць. Папрасіў знаёмага са Старыны, каб той завёз яго да лекара. Заехалі на месца, злезлі з машыны і ўсё. Паспеў сказаць, што дрэнна сябе адчувае і скончыўся як стаяў. У Гайнаўцы, побач з бацькам, яго пахавалі.

Сын быў ужо напалову гарадскі, дарастаў у Гайнаўцы, там сям'ю сваю завёў. Толькі долі не меў. І не ўмеў з жонкай зладзіцца, разышоўся. Пасля ў турму трапіў. Нібыта за агрэсію, якую прымяняў у адносінах да сям'і. Лідзія Назарук адна наведвала яго ў *віндзені*. Усе апошнія адвярнуліся. Ні жонка, ні дзеці, ніхто вачэй не ўказаў.

— Калі ўжо адсядзеў, я яго да сябе забрала, — цяжка ўздыхае жанчына. — Сюды, у Бобенку. Каб адумаўся, змірыўся. Але сын усё думаў пра жонку. Пакутнічаў. Стаў хварэць. Я кажу: ідзі сынок на работу, можа каго яшчэ сустрэнеш, пакахаеш. Ці ж яна адзін квет на ўвесь свет?!

Не хацеў слухаць пра іншую мой сынок бедны.





* * *

Да цёткі Ліды я трапіла праз Мішу Андрасюка. Ён завёў у хату жанчыны і папрасіў, каб яна распавяла пра жахі вайны, забітых дзяцей, пра добрага немца і наіўнасць мясцовых, якія загінулі, бо бамбардзіроўку палічылі скіданнем амерыканскіх кансерваў.

Міхась, як пушчанскі хлопец і вядомы журналіст, карыстаўся вялікім аўтарытэтам і даверам маёй гераіні. Яго рэкамендацыя была вырашальнай і прагучала як загад:

— *Цётко, роскажытэ для Гандзі, про тое, што мніэ казалі...*

Лідзія Назарук пасля смерці сына захварэла цукровай хваробай. І аслепла ад гора. Зараз яна бачыла толькі маю чырвоную кашулю і чула жаночы голас. Усё апошняе, значыць давер, наладзіў між намі Міша. Найбольш здзівіў усіх час. У пушчанскі хутар на канец свету быццам хто нас падаслаў. Праз дзень Лідзія Назарук паедзе ў шпіталь у Беласток на аперацыю вока. І зараз яна моцна хвалявалася за Олю, сястру-інвалідку. Як жа пакінуць такога чалавека самога ў хаце? У вёсцы, дзе няма родных. Гэта страшней за ўсякія аперацыі. Праўда, на гэты час паабяцалася заначаваць знаёмая з Войнаўкі, бо з Оляй як з малым абыходзіцца трэба. Нічога не разумее, нават не ведае колькі ў яе пальцаў на руцэ. Найгорш, калі ноч. Баіцца, заснуць не можа. Цётка Ліда кладзецца з ёю спаць у адным ложку, закалыхвае яе добрым словам, прыгалубіць як заплаканае дзіцятка.

У час нашай размовы Оля ўсяму падтаквае. Словы сястры, нават калі датычаць яе асобы, успрымае як расказ пра кагосьці чужога з іншага свету. Гляджу праз акно на размытую зялёную сцяну лесу. На дварэ ідзе дождж. Кволая безабароннасць, чуласць і гора зліваюцца ў набрынялую жыццёвую драму, якая разыгралася ў гэтай сям'і і ў прыхаванай ад свету, рассечанай на дзве палавіны вёсцы Бобенка.

*(працяг будзе)*

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960